У нумары: Падарожжа па Югаславії — Бацькаў гнеў — Увага, пасрэднікі!

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 47 (302) | ГОД VII | 25 ЛІСТАПАДА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

# ВАРОТЫ Ў СВЕТ

Калі гутарка ідзе пра Гданьск, чалавеку на думку прыходзіць гарачае летняе сонца і... мора. А мне і восенню Гданьск падабаецца.

Мне асабліва падабаецца стары Гданьск. У час вайны ён амаль поўнасцю быў разбураны. Зараз стары Гданьск зусім новенькі. Старынныя камянічкі, быццам казачныя забаўкі, цешаць вока. Асабліва прыгожы Гданьск ноччу, калі ў горадзе заблішчыць мора рознакаляровых неонаў. Уся гэтая прыемнасць дапаўняецца яшчэ ветлівасцю гданьшчан. Зайдзіце вы ў любую краму, магазін ці ва ўстанову, і вас абавязкова сустрэне прыемная ўсмешка прадаўшчыцы, ахвотна дапаможа, параіць, растлумачыць. Забеспячэнне ў харчовыя прадукты горада таксама выдатнае. Я спецыяльна заходзіў у многія, так сказаць, другарадныя бары. Які ж багаты асартымент ежы! Мне мімавольна ўспомніліся традыцыйныя селядцы і з'ялчалыя, неапетычныя салаткі ў нашых беластоцкіх барах.

— Гданьск — гэта табе, браток, не Беласток, — казалі мне сябры, калі я дзяліўся сваімі ўражаннямі. — Гэта ж партовы горад, так сказаць, вароты ў свет. Тут штодзённа прабываюць сотні іншаземцаў.

Згода, але ці ж ветлівасць абавязвае толькі ў адносінах да іншаземцаў, гэта значыць на паказ? Або, ці ў нас на Беласточчыне няма магчымасцей узбагаціць асартымент ежы ў месцах агульнага харчавання? Я б сказаў, што ёсць большыя магчымасці, чым у Гданьску, беручы пад увагу гаспадарчы характар Беласточчыны. А мо' няма ў нас адпаведных майстроў па кулінарных справах?



У Гдыньскім порце.

### КАНЦЭРТ У КАСЦЁЛЕ

Так як мусульманскіх пілігрымаў прыцягвае да сябе Мекка, таксама наведвальнікаў і турыстаў у Гданьску прыцягвае Аліўскі касцёл-катэдра. Гэтай вялікай цікавасцю наведвальнікаў карыстаецца не так старажытны касцёл, заложаны ў 1200 годзе, як адзіныя ў Еўропе арганы — выключны музеальны забытак. Самыя арганы складаюцца больш як з 1400 пішчалак з танацыяй, пачынаючы ад камарынага піску да грымячага, патрасаючага басу. Яны ўпрыгожаны мноствам размысловых фігурак рэзаных у дрэве, званочкаў, трубачак, барабанаў. Не кожнаму турысту ўдаецца паслухаць ігры на гэтым арыгінальным інструменце. Беручы пад увагу бясцэнную вартасць арганаў (а музыка з часам кожны інструмант псуе) ігра на іх адбываецца вельмі рэдка, толькі ў час выключных урачыстасцей. Мне якраз давялося паслухаць у Аліўскай катэдры (хоць і не было ніякай урачыстасці) канцэрт музыкі Баха. Арганы так устаноўлены ў касцёле, што калі яны зайграюць у адным канцы, дык рэха па нейкім часе адклікаецца ў другім канцы касцёла. Атрымоўваецца ўражанне, быццам музыка выконваецца на двух, такіх самых, арганах. Аднак найбольш дзівоснае, калі ў канцы музычнага твора, драўляныя ангелы, што па баках арганаў, падымаюць да вуснаў трубы і пачынаюць трубіць. Дзесяткі меншых фігурак бяруць у рукі званочкі, рытмічна пазваньваючы імі. Усё верціцца, рухаецца, штораз хутчэй, мацней і адначасова з апошнім акордам музыкі — замірае. Ізноў стаецца кавалачкам нежывога, рэзанага дрэва. Незабыўнае ўражанне.

### ГДАНЬСКАЯ ПЭРЛА

Аднак пэрлай і гонарам Гданьска з'яўляецца суднабудаўнічая верф. Суднабудаўніцтва з кожным годам стаецца ўсё больш магутнай галінай нашай прамысловасці. А варта ведаць, што караблі, пабудаваныя ў польскіх верфах, карыстаюцца прызнаннем маракоў усяго свету. Суднабудаўнічая верф у Гданьску шмат караблёў будуе для замежных арматараў. Адным з найбольшых заказчыкаў Гданьскай верфі з'яўляецца Савецкі Саюз. Толькі ў гэтым годзе пабудуецца

(Працяг на стар. 4)

# СПАТКАННЕ з Ежы Путраментам



Апошняя кніга Е. Путрамента «Палова стагоддзя» з прычыны моцнай тэматычнай сувязі з Беларуссю была для мяне мілай нечаканасцю. Чытаючы «Палову стагоддзя» адчуваеш павеў чагосьці блізкага і дарагога. Наднёманскія вёскі, Ліда, Вільня — гэта этапы пройдзеныя героем кнігі, якім ёсць сам аўтар — Ежы Путрамент. «Палову стагоддзя» можна назваць жывым летапісам ілюструючым жыццё аўтара на яскравым фоне грамадскіх і палітычных падзей у даваеннай і пасляваеннай Польшчы. Самай характэрнай рысай кнігі ёсць арганічнае спалучэнне індывідуальнага з агульным, асабістага з грамадскім. На многіх старонках кнігі развіваецца каларыт беларускай прыроды, выступаюць жыхары беларускіх вёсак, дзейнічаюць прадстаўнікі беларускага літаратурнага руху. Нічога затым дзіўнага, што пасля прачытання кнігі спатканне з аўтарам сталася маім гарачым жаданнем. Аднак ажыццяўленне сустрэчы не належыць да лёгкіх задач. Падарожнічае ён безупынна не толькі па Польшчы, але і далёка па-за яе межамі. Пасля некалькіх маіх няўдачных спроб навязання кантактаў з пісьменнікам, ветлівая пані з Саюза Польскіх Літаратараў параіла:

— Прыдзіце заўтра, можа зловіце пана Путрамента.

Прыходжу, сяджу, як вучаніца ў пакоі дырэктара, злажыўшы рукі на калені, са слабой надзеяй у сэрцы цярпліва чакаю. Раптам адчыняюцца дзверы і паяўляецца ў іх, але зараз знікае, моцна загарэлы твар. Пазнаю — гэта Путрамент, якога я ведаю з частых яго выступленняў у тэлебачанні. Праходзіць некалькі хвілін, дзверы адчыняюцца зноў, і на гэты раз Путрамент паспешна ўрываецца ў пакой. Устаю.

— Як прозвішча? — кідае ён у мой бок пытанне.

Адказваю, хаця і ведаю, што маё прозвішча нічога яму не гаворыць.

— Пачакайце, — чую голас Путрамента ўжо з другога кутка залы перад знікненнем яго ў наступным пакоі. Чакаю зноў — пісьменнік паяўляецца даволі хутка.

(Працяг на стар. 5)

ПАДАРОЖЖА ПА ЮГАСЛАВІІ

# ТАЯМНІЦА ЕДНАСЦІ

Адразу прашу чытачоў быць цярплівымі. Бо пачну ад пералічэнняў, якіх адным словам не перакажаш. Югаславія па-праўдзе называецца Федэрацыйная Народная Рэспубліка Югаславіі. Дзяржава складаецца з 6 саюзных рэспублік і дзвюх аўтанамічных акруг. Рэспублікі: Сербія — сталіца Белград, Харвацыя — сталіца Загрэб, Славенія — сталіца Люблiяна, Босьня і Герцагавіна — сталіца Сараева, Македонія — сталіца Скоплю, Чарнагор'е — сталіца Цітаград. У Сербскай рэспубліцы распалажаны дзве аўтанамічныя акругі: на поўдні — Косава і Метогія — жывуць тут албанцы (шыптары), і на поўначы Вайвадзіна — заселена ў большасці мадзьярамі. Дзве з рэспублік (Македонія і Славенія) гавораць на розных мовах. У астатніх рэспубліках карыстаюцца серба-харвацкай. Пры тым — у Сербіі пішуць кірыліцай, у Харвацыі і Босьні — лацінскім алфавітам.

У гісторыі Босьня, Чарнагор'е, Харвацыя і Сербія мелі сваю дзяржаўнасць і нацыяналістычныя плыні ў гэтых краінах былі заўсёды моцныя. А на працягу дзеяў кожная амаль частка сённяшняй Югаславіі перажывала розныя палітычныя і культурныя ўплывы. Уся Дальмакія (краіна над Адрыятыкам)

(Працяг на стар. 3)



Прыклад новага будаўніцтва — гасцініца ва Урашэўцу. Турыстыка стаецца прамысловасцю Югаславіі. У гэтым годзе дала яна звыш 4 мільярдаў дзінараў даходу ў дэвізах (каля 4 мільёнаў злотых дэвізовых).



# ЗДОРОВЭНЬКІ БУЛЫ

4 лістапада прыехалі з рэвізітам у Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку актывісты украінскага таварыства з Бань Мазурскіх. Украінскія госці пабывалі ў Трасцянцы, Гайнаўскага павета, дзе разам з эстрадай «Лявоніха» далі канцэрт мастацкай самадзейнасці. Жыхары Трасцянкі вельмі горача сустрэлі мілых гасцей.

А вечарам адбылася сустрэча ў памяшканні Галоўнага Праўлення БГКТ. Госці пазнаёміліся з дасягненнямі ў працы Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, абмяняліся вопытам у дзейнасці таварыстваў.

Сустрэча адбывалася ў вельмі цёплай, сардэчнай атмасферы. Былі наладжаны танцы.

Пастанавілі пашырыць супрацоўніцтва паміж аддзеламі БГКТ у Беластоку і УГКТ у Банях Мазурскіх. Асабістыя кантакты зближаюць людзей.

**На здымку: Украінскі калектыў мастацкай самадзейнасці з Бань Мазурскіх.**

**(вб)**

# ВАРОТЫ Ў СВЕТ

**(Працяг са стар. 1)**

тут для арматараў Савецкага Саюза марскіх адзінак аб агульным танажы звыш 132 тысяч тон. Апрача Савецкага Саюза Гданьская верф будуе караблі для арматараў Бразіліі, Швейцарыі, Кітая і другіх краін. Гданьская суднабудаўнічая верф, гэта не нейкі там завод, а проста цэлы квартал горада, у якім свае вуліцы, свае сродкі зносін. Ідзеш такой вуліцай, і раптам перад вачыма вырастае табе карабель - гігант, вышынёй з пяціпавярховы дом. Ён ужо спушчаны на ваду. Тут праводзяцца ўсе апошнія працы. Карабель атрымае адпаведнае абсталяванне і з вузкіх верфавых докаў выплыве на шырокія воды.

Вось мы падышлі да грамадзіны на паіржавелых бартах якой вялікімі буквамі напіс: «Пианерск».

— Гэта карабель — рыбацкая база для Савецкага Саюза, — паясняе нам праваднік. — Яго нядаўна спусцілі на ваду. Танаж карабля 14 тысяч тон. Даўжыня — звыш 120 метраў. Карабель атрымае навейшае абсталяванне. У ім будзе паліклініка з рэнтгенам і ўсімі лекарскімі кабінетамі. Калі рыбак захварэе ў моры, дык хопіць толькі падплысці кацерам да базы і тут поўная лекарская апека. На «Пианерску» будзе пастаяннае кіно для 300 асоб, купальны басейн, бібліятэка і другія навейшыя абсталяванні сацыяльнага характару. «Пианерск» будзе абслугоўваць 200 асоб. Апрача гэтага карабель можа пастаянна прымаць да 300 асоб рыбакоў з кацераў.



**«Пианерск» спушчаны на ваду.**

Аднак пэрлай Гданьскай суднабудаўнічай верфі з'яўляецца «Прафесар Губер». Пабудова гэтага прыгажуна - веліканa, даўжынёй амаль 200 метраў, хутка будзе закончана. Для цікавасці варта падаць, што адзін толькі рухавік для гэтага карабля велічынёй з чатырохпавярховы дом. А, напрыклад, вага ланцуга, на якім утрымоўваецца якар — 20 тон. Такіх гігантаў у Гданьску яшчэ не будавалі ніколі. Незадоўга прыгажун «Прафесар Губер» пакіне Гданьскую верф і ў далёкіх акіянскіх партах будзе расслаўляць гандлёвы флот нашай краіны. Шчаслівага плавання!

**ВАРОТЫ Ў СВЕТ**

З Гданьска ў Гдыню — рукой падаць. Проста было б нетактоўна, будучы ў Гданьску, не наведаць найбольшага порта нашай краіны. І вось мы ў Гдыні на палубе прыгажуні «Гражыны». Праездка караблём па Гдыньскім порце 2 гадзіны. Праз увесь гэты час нас канваіруе стая нахабных чаек. Гэтыя пражорлівыя стварэнні проста з рук вырываюць у чалавека ежу, на ляту хапаюць кусок булкі, пры гэтым неміласэрна крычаць. Ну, проста вушы затыкай. Але ці ж чалавеку да іх, калі ў порце столькі дзіваў? Тут разгружаюцца караблі - гіганты з Францыі, Англіі, СССР. А вось мы праязджаем побач в'етнамскага, белага як снег акіянца. На ўзбярэжжы порта — лес магутных кранаў. Усе яны ў руху. Грузяць, разгружаюць. Навокал пануе скрыгат, лёскат і... шум мора. Асенняе мора дыхае холадам. Глянеш у шэрыя, быццам налітыя волавам хвалі і страшна робіцца. «Гражына» падплыла да шырокага праходу на бетонных канцах якога вырастаюць два марскія маякі. За праходам Вісляны заліў і Балтыйскае мора. Яно ў далечыні зліваецца з абніжаным небасхілам. І ніяк не адрозніш, дзе канчаецца мора, дзе пачынаецца небасхіл. А караблі, што віднеюць у далечыні заліва, быццам завешаныя ў паветры.

Вечарам агні маякоў вызначаюць праход у порт. Вароты ў шырокі свет — адкрыты.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**
фота аўтара

# ЯКІ ГАСПАДАР, ТАКОЕ І ГАСПАДАРСТВА

У дбайнага гаспадара ўсё падвойна водзіцца. У Сакольскім павеце па-суседску распалажаны дзве грамадскія рады: Белавусы і Янаў. Праз Янаў праходзіць шаша. Адсюль выгадны даезд і ў павятовы цэнтр, і далей. Зямля ў абодвух адміністрацыйных раёнах аднолькава па якасці, людзі таксама нічым асаблівым не розняцца.

Здавалася б тады, што Янаўская ГРН не павінна адставаць у прадукцыйных выніках ад Белавусаўскай. На жаль, гэта толькі.... здавалася б, бо на практыцы яна не паспявае нават за хвастом белавусаўцаў.

Розніца паміж імі найбольш яскрава ўвідавочнілася пры правядзенні ўзаімасуседскага насеннеабмену.

Кожная грамадская рада даўно ўжо мае састаўлены план рэпрадукцыі збожжа і бульбы. Такі ж план, а як жа, зрабілі пад адміністрацыйным націскам і кіраўнікі ГРН-у ў Янаве. Далей аднак не хапіла ім арганізатарскага спрыту і кіраўнічай кемлівасці. Яны забыліся аб патрэбе пастаяннага кантролю над ажыццяўленнем састаўленага плана.

Старшыні прэзідыума Янаўскай ГРН (ды не толькі яму) яшчэ шмат чаго трэба павучыцца ад свайго калегі, Эдмунда Быкоўскага з Белавусаў.

Не, Эдмунд Быкоўскі нічога надзвычайнага не даканаў. Як разважлівы арганізатар, ведаў ён, што сам адзін мала чаго зробіць; пастараўся тады згуртаваць вакол сябе энергічны актыў, а як кемлівы гаспадар, шукаў найбольш простых, але высока эфектыўных сродкаў павелічэння ўраджайнасці.

Кругом, пры кожнай нагодзе ўсе гаварылі аб дабрадзействах насеннеабмену. Даверыў і шчыра ўзяўся за гэтую справу. Не адзін. Свае намаганні шмат разоў узмоцніў сіламі актыву. Перш за ўсё старанна — пры выдатнай дапамозе агранома — дабралі яны найбольш надзейныя гаспадаркі, на якіх хлебаробы мелі вырошчваць высокаякаснае насенне. Потым на вясковых сходах актывісты і сам старшыня паяснялі цярпліва сялянам, чым ёсць і на што патрэбнае хлебаробу стварэнне, якое называюць рэпрадукцыяй.

Перадавікі насенніцтва атрымалі дакладныя спіскі, у якіх падрабязна было ўказана, які селянін, у каго і калі мае і мусіць (!) даканаць абмену свайго кармавога збожжа на насенне высокай якасці. Усё абышлося тады без дакучлівай блытаніны, паводле разважліва абдуманага плана.

Адборнае насенне пасыпалася ў глебу хлебаробаў з тэрыторыі ГРН Белавусы. У час жніва ані сяляне, ані старшыня не шкадавалі сваіх намаганняў. Не гледзячы на сёлеташнія непрыхільнасці надвор'я, сялянам з наваколля Белавусаў прыбавілася ад двух да чатырох цэнтнераў збожжа і да 12 цэнтнераў бульбы на кожным гектары пасеваў. Гэта дзякуючы рэпрадукцыі — гэтаму найбольш простаму спосабу павышэння ўраджайнасці.

**Віктар Рудчык**

## Увага, пасрэднікі!

# ПАВЯЛІСЯ Ў НАС СЛАЎНЫЯ ВЁСКІ

Бушуюць усюды агенты розных гадаўляных і плантатарскіх «звёнзкаў», ільнозаводаў, цукроўняў. Стараюцца хлопцы, як могуць, бо ж ад кожнай кантрактацыйнай умовы сёе-тое ўляціць і ім у кішэню ў выглядзе прэміі ці працэнту. Няма чаго наракаць, добра зарабляюць за сваю валакітню, а хочуць хапануць яшчэ больш. Моў, чалавеку заўсёды мала...

Таму ездзяць яны перш за ўсё туды, дзе людзі даўным - даўно расмакаваліся ў дабрадзейнасці плантатарскай гаспадаркі. Там не трэба ўжо нічога агітаваць, самі напрашваюцца — толькі паспявай выкупліваць. Адсюль і павяліся на Беласточчыне вёскі слаўныя гадоўляю ільну, пасяўных траў, агуркоў ці цыбулі. — Юраўляны, Цялушкі, Пянькі і інш. Надыдзе восень і гнездзяцца ў іх усялякія закупачныя пункты.

Зноў у другія вёскі і сабака кульгавы не загляне. Праўда, зімою іншы раз завітае нейкі лектар ад ЗМВ або БГКТ ды шпарне трохгадзінную гутарку аб шляхах павышэння ўраджайнасці палёў, сыпне пры тым навуковай тэрміналогіяй і выкрыкне наканец аб Войшках, Міхалове, дзе вунь якія даходы народ атрымоўвае з вырошчвання трускалак, гадоўлі свіней. Чулі аб гэтым, чулі, а як жа... Найгорш тое, што прызвычаіліся ўжо людзі выслухоўваць пахвалы наконт сваіх далёкіх, блізкіх суседзяў.

Часамі нейкую бяднейшую славай грамадскую раду кроў чорная залівае на такую несправядлівасць лёсу. Хай сабе нат' і ўтопіцца зайздросная рада ў нястрымным гневе, злосці, але ўсё роўна нічагусенькі не зробіць, бо апарат рад нарадовых не мае ўплыву на дзейнасць агентаў прадукцыйна - гандлёвых арганізацый, устаноў. Робяць яны, што хочуць і дзе хочуць. Вядома, так, каб не перапрацавацца і чым больш заграбастаць грошай. Пашто ж брысці недзе ў занялалыя мясціны і тыднямі траціць час, скачучы над няверпымі душамі, якія вераць не вераць, што, напрыклад, з гектара ільну можна мець 14 тыс. злотых даходу?

Ці не выгадней падысці да Анатоля Адзіевіча, прэзэса арлянскай ГС і падпісаць з ім дагавор на кантрактацыю, дапусцім, трох з паловай гектараў ільну. Не бяда, што зямлі ў яго ўсяго 2,71 га. Чытайце далей, а даведаецеся, што Орля з'яўляецца ўжо глыбокай правінцыяй для расквартараванага ў бельскім атэлі агента. Шмат зручней, прачнуўшыся раніцаю, накіравацца адразу ў мясцовы банк і аформіць вось хаця б з Дзімітрам Ігнацюком кантрактацыю ільну на плошчы 2 гектараў або заглянуць у павятовую камендатуру пажарнікаў ды дагаварыцца з Зыгмунтам Балестам на гэтыя ірундовыя 2,5 га. Пачуў аб такой аказіі і Станіслаў Шарашэвіч з чыгуначнага вузла, чыркнуў дагавор на 1,5 га. А ВКР горшы ці як? Ян Радкевіч таксама прыспасобіў адзін гектар ільняной плантацыі.

Хто сказаў, што толькі на ільне можна збіць капітал? Цукровы бурак знайшоў сабе ахвотных плантатараў у асобе Івана Любавіцкага з бельскай пякарні, Аляксандра Гадзіны з мясной цэнтралі.

Хопіць ужо пералічваць доўгі спіс нечаканых энтузіястаў уздыму сельскагаспадарчай прадукцыі. Крыўды ім ніякай не хочам. Так сказаць, з голай пэнсіі цяжка выжыць дык няхай на здароўе упхнуць у партфель поўную жменю пяцісотак для палепшання дабрабыту сям'і і... сем'яў тых, хто абрабляў за іх кантрактаваныя палеткі.

Відаць па ўсяму, што ўсе цяпер кінуліся развіваць сельскую гаспадарку. Хочуць паказаць, якія вялікія даходы можна выціснуць з зямлі.

Не скажу, наш запрацаваны гаспадар не супроць карысці, ахвотна сам, асабіста, закантрактаваў бы ільну, буракоў, гародніны. Пасрэднік непатрэбны.

**КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ**




**ПРА СЯМЕЙНАЕ ЖЫЦЦЁ**

«На пяты дзень мірнае суіснаванне закончылася і паміж намі пачалася халодная вайна».

(З заявы аб разводзе).

*

**ЯКІЯ ЛЕПШЫЯ ЖАНЧЫНЫ**

Нехта спытаў вялікага акцёра:

— Якія лепшыя жанчыны: зайздросныя, ці іншыя?

— Якія іншыя?

**ГУЛЬНЯТЭКА**

**Расстаўце ўсе лічбы ад 1 да 16 у клетках так, каб па ўсіх гарызанталях, вертыкалях, дыяганалях і ў квадратах сума лічбаў раўнялася 34.**



## ШАХ І МАТ

Новы галоўны бухгалтар з'явіўся ў кантору нечакана, якраз тады калі рахунковыя работнікі збіліся над шахматнай дошкай.

— Давай шаха! — тупаў нагамі малодзенькі касір, ды так і застыў з шырока разяўленым ротам. Ён першы заўважыў падышоўшае начальства.

— Шаха! — перадражніў яго галоўны бухгалтар. — Тут слана ратаваць трэба, а не шаха... Пянёк гарэлы!

**ПАДАБЕНСТВА**

— Кожны раз, калі цябе ўбачу, прыпамінаецца мне Маліноўскі.

— Але ж я не падобны на яго.

— Не, толькі ён таксама вінават мне 500 злотых.

*

**ЗАЛЁТЫ**

Малады чалавек заляцаўся да адной дзяўчыны:

— Вы ж мяне недаацэньваеце. Калі б я быў на вашым месцы, я не мог бы без мяне жыць.

## КАРОТКІЯ БАЙКІ

### Паверыла

— Люблю! —
Шчупак прызнаўся плотцы.
Паверыла
і... апынулася ў глотцы.

### „Чэмпіён"

Смаўжа ў бегу перагнала
і... «чэмпіёнам» жаба стала.

**Павел ШЫБУТ**

# ГАРАЦЬ КАСТРЫ ВЫСОКІЯ...

У Беластоку на Рынку Касцюшкі сутыкнуўся я з Сенькай, як сутыкаюцца два сустрэчныя цягнікі.

Сенька адскочыў ад штуршка і напэўна пабег бы далей, каб не мой воклік:

— Куды спяшаеш, дружа?!

— Бягу дамоў!

— Што за спешка? У хаце бабулінае вяселле, ці кошка акацілася?

— Спяшаю ўключыць электрычнае святло, — адказаў Сенька.

— Мілы дружа, сёння дзень ясны, бы маргарын, навошта ж электрасвет?

— Лямпачкі, награваючыся, выдзяляюць цеплыню. Значыць, на ацяпленні эканомія будзе, — вытлумачыў Сенька і спытаў нечакана: — Ты паважаеш лозунгі?

— Зразумела, лозунгі мабілізуюць нас!..

— Вось менавіта, — спыняе мяне Сенька і паказвае на скверык. — Бачыш, напісана «Эканом і вучы эканоміць».

Бачу сапраўды гэты лозунг, а пры ім газавы касцёр гарыць. Навокал кастра шэраг меншых лозунгаў. Усе аб эканоміі газу.

«Наш касцёр у тумане свеціць,

Ацяпляе небасхіл» — праспяваў паўголасам Сенька.

— Пастой, брат, — спыняю прыяцеля. — Якая ж гэта эканомія, калі газ гарыць кругласутачна?

— Насупраць Звярынца гарыць падобны касцёр, — паведамляе Сенька. — Толькі чарга да яго велізарная.

— Чарга? — здзіўляюся.

— Вось, менавіта, — і Сенька тлумачыць: — Стаяць грамадзяне ў гэтай чарзе з чайнікамі, скаварodкамі, каструлькамі. Вараць чай, яешню смажаць, сасіскі падаграваюць на дармовым агні. Эканомяць і іншых вучаць ашчаднасці, згодна з лозунгам. Добрая штука гэты газавы агонь. На запалках таксама эканомія, у любую пару прыкурыць можна ад кастра.

Тут Сенька выняў сігарэтку, падышоўшы да газавай кадушкі, з якой палыхала чырвонае полымя, прыкурыў і, памахаўшы на развітанне мне рукой, хутка адышоў.

Нашае племя над Белкай асвечанае, ведае, якія лозунгі пісаць. А фантазія нашых грамадзян гарачая, бы полымя газавых кастроў.

**Дзядзька Лявонь**

**ЗАМЕЖНЫ ГУМАР**



**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

Па просьбе **Надзі Якімюк** з Кожына, Бельскага павета, змяшчаем беларускую песню

## СЯРОЖА

Дачка: — Мамачка, прыйшоў Сярожка
Пасядзець са мною трошкі.
Хоча штосьці мне сказаці,
Не магу я разгадаці.

Маці: — Ой дачушка, што ты, што ты,
Адпраўляй дамоў яго ты.
Не пускай ты баламуты
І не вер ні ў чым яму ты.

Хор: — Ведаць нам усім цікава,
А чкая хлопцу справа
І якая тут прычына,
Што прыйшоў ён сёння да дзяўчыны.

Дачка: — Мамачка, сказаў Сярожа,
Што ў брыгадзе мне паможа
Парабіць усю работу
Са мной разам у ахвоту.

Хор: — Ой, глядзі, не даварайся,
Лепей хлопца адцурайся.
Ты сама ўсё на славу
Робіш вельмі спрытна і рухава.

Дачка: — Мамачка, хачу прызнацца,
Не магу я адцурацца,
Бо навек праклаў Сярожка
К майму сэрцайку дарожку.

Маці: — І няхай дарожка тая
Крапівою зарастае.
А ты дома сядзі ціха,
Каб нязнала цябе ліха.

Хор: — Гэта хлопцу толькі жарты,
А чаго ў жыцці ён варты,
Ці пашаны за работу,
А ці ганьбы за ляноту?

Дачка: — Мамачка, сказаў Сярожа,
Без мяне ён жыць не можа,
А хлапчына як загіне,
Дзе ж падзецца, мне, дзяўчыне?

Хор: — Гэта ж ён, дзяўчына, хлусіць,
Каб цябе любіць прымусіць.
А самому той парою
Добра насмяяцца над табою.

Дачка: — Мамачка, хлусні ні крошкі
У сельсавет заве Сярожка,
Каб са мною запісацца,
Ці ж магу я адказацца?

Хор: — Ой, матуля, не спрачайся,
На вяселле ты збірайся.
А вяселля прычакаем,
Разам з вамі слаўна пагуляем.

**БАЦЬКОЎСКАЯ ВЕРСІЯ**

Бацька расказвае падрастаючаму сыну павучальныя выпадкі са свайго жыцця:

— Вось так, мой сын, выглядае гісторыя гэтай бітвы і твайго бацькі.

— Ну, добра, татачка, але навошта патрэбны былі табе іншыя салдаты?



— Хутчэй мяшай, дык я прыгараю!

**ЗГОДНАСЦЬ ПОГЛЯДАЎ**

— Ваш першы муж быў цудоўным чалавекам. Які жаль, што так заўчасна памёр!

— Ой так, мая вы дарагая. Мой другі муж гаворыць гэтак сама!



**СЛУШНАЯ ПАРАДА**

Бацька кажа да свайго сына, якога пасадзілі ў турму за кражу:

— Шануйся там, сынок, каб цябе назад не выгналі.

**КУР'ЕЗЫ**

## Лаўры, якія можна есці

Не ўсім спартсменам пасля перамогі дастаюцца сярэбраныя і крыштальныя вазы і медалі з надпісамі. Іншыя атрымліваюць «лаўры» крыху іншай формы. Так, французскі лёгкаатлет, чэмпіён краіны па скачках у даўжыню Бранчы атрымаў ад невядомых балельшчыкаў віншавальны адрас, які быў напісан на манускрыпце даўжынёй 7 метраў 75 см, што роўна рэкорду спартсмена. Больш «пашанцавала» бразілійскаму спрынтэру Пінейра. За яго лепшае дасягненне на стометроўцы (10,5) паклоннікі прыслалі яму... 10,5 кг першасортных курыных яек (г. зн. за кожную секунду па кілаграму). Калі кіравацца гэтым прынцыпам, піша нямецкая газета «Югне вельт», то Балотнікаву за яго сусветны рэкорд на 10 000 м (28.18.2) патрэбна было б нямнога-нямала, як 1698,2 кг яек...



— Франц! Нам здорава павезла: нехта ідзе!